


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (1071) БЕЛАСТОК 5 ВЕРАСНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.

VIII З'ЕЗД БГКТ

## Поўнасцю падтрымліваем кірунак дзейнасці...

*(Выступленне дэлегата з Гданьска — Анны Красько)*

З прыемнасцю я праслухала даклад і праект пастаноў, якія прадставіла з'езду дагэтуляшняе Галоўнае праўленне БГКТ. Хачу станоўча сцвердзіць, што праект пастаноў, прадстаўлены VIII з'езду, дае канкрэтны напрамак да дзейнасці нашай арганізацыі ў будучыні. І я ад гданьскага гуртка БГКТ хачу сказаць, што мы поўнасцю падтрымліваем гэты праект. Для таго, каб ажыццявіць гэтыя пастановы, неабходна канкрэтная дапамога Галоўнага праўлення і грамадскіх арганізацый. Калі гаварыць аб нашым гданьскім гуртку БГКТ, дык у лістападзе будучага года мы будзем адзначаць 10-годдзе яго існавання. У сувязі з гэтым маем просьбу да ГП БГКТ, каб яно дапамагло нам ураччста адзначыць гэтую важную для нас дату. Праўда, не адбыўся абяцаны для нас канцэрт, даўно таксама не наведвау нас ніхто з нашых пісьменнікаў. А трэба ведаць, што Гданьск — гэта горад партовы, усялякіх атракцыёнаў у ім поўна і нашыя дагэтуляшнія формы культурна-асветнай дзейнасці проста не вытрымліваюць канкурэнцыі. Нам патрэбна сістэматычная праца, якая б знаёміла нас з багатай нашай беларускай культурай.

Найлепшыя нашыя салісты ці найлепшы наш харавы калектыў павінен трапіць на фестываль савецкай песні ў Зялёнай Гуры. Напрыклад, у мінулым годзе калектыў з Мальборка з беларускай песняй *„Касіў Ясь канюшыну“* заквааліфікаваўся на гэты фестываль і заняў на ім адно з вядучых месц. Мяркуем, што і нашы самадзейнікі маглі б удастоіцца высокай ацэнкі на гэтым фестывалі. Неабходна, каб „Дом кнігі“ ў Гайнаўцы меў больш багаты і разнастайны выбар беларускіх кніг, у мінулым годзе, у жніўні месяцы, я там налічыла ўсяго шэсць кніг. Гэта ж проста парадаксальная сітуацыя! Хвалюе нас таксама справа Беларускага этнаграфічнага музея. Неабходна зрабіць усё, каб або музей або скансен былі створаны. Гэта павінна стаць нашым гонарам.



## ЖЫВУЦЬ ЯНЫ НАД НАРВАЙ

Вёска з цікавай назвай Цялушкі раскінулася над ракой Нарвай, якая ў гэтай ваколіцы зусім чыстая, бо яе воды не замучаны ніякімі фабрычнымі сцекамі. Тут ёсць шмат рыбы, на якую заўсёды нямала аматараў. Але найчасцей над ракой з вудачкай можна спаткаць дзеда Андрэя Багалета, які ведае ўсе таямніцы ракі.

Сюды ў святочныя дні прыязджаюць людзі з Беластока і Бельска, каб у Нарве пакупацца і пазагараць на яе беразе. Тут уздоўж ракі шырокімі палоскамі цягнецца і паша для быдла, і сенажаці, і добрыя кускі зямлі, на якіх садзяць у асноўным гародніну.

Нарва ў гэтай ваколіцы была доўгі час граніцаю двух паветаў — Бельскага і Гайнаўскага, а цяпер з'яўляецца граніцаю дзвюх гмін — Заблудаўскай і Нараўскай.

У 1944 годзе рака Нарва была тут лініяй савецка-нямецкага фронту і цяжкіх многагадзінных баёў. Пацярпела і вёска. Частка яе згарэла, і былі паранены яе жыхары. Шмат давялося людзям перажыць.

А калі ўспомніць далейшае мінулае, яшчэ перад другой сусветнай вайною, дык вялікае замішанне ў вёсцы рабілі вызнаўцы Грыбаўскага Ільі, якому аддавалі яны сваю маёмасць і апошнія залатоўкі.

Жылі таксама ў гэтай вёсцы і змагары за нацыянальную і сацыяльную справядлівасць, такія людзі, як Аляксандр Марчук і іншыя, члены КПЗБ.

Пасля вайны жыхары Цялушак шчыра ўзяліся за працу на гаспадарцы. Вёска хутка загаіла раны вайны — адбудавалася і з кожным годам паляпшала свой матэрыяльны ўзровень. У сярэдніх і вышэйшых школы моладзь рушыла масава значна пазней. Амаль усіх народжаных пасля 1940 года як пад мятлу вымела — усе хлопцы і дзяўчаты пайшлі вучыцца і працаваць у гарады, а цяпер прыязджаюць у родны кут толькі ў госці і наведаць сваіх старых бацькоў. Усе старэйшыя людзі ў асноўным да сённяшняга дня прадаўжаюць сялянскую прафесію сваіх бацькоў і ў адрозненні ад іх працуюць лягчэй, а жывуць замажней і культурней. Гэтаму спрыялі такія падзеі, як электрыфікацыя вёскі, меліярацыя і камасацыя вузенькіх і доўгіх палосак, якія не давалі сялянам уводзіць механізацыю пры апрацоўцы зямлі. Вёска цяпер выглядае эстэтычна. Кідаецца ў вочы парадак на шырокіх панадворках, дрэвы на вуліцы, жалезная агароджа.

Цялушкі з дзеда-прадзеда займаюцца вырошчваннем агуркоў. У кожнага гаспадара ёсць свая плантацыя агуркоў.

Некалькі год таму назад наступіў тут „выбух“ цапляраяў з фальгі, якія называюць там будамі. Амаль кожны гаспадар мае калі не некалькі, дык хоць адну такую буду, пад якой значна хутчэй даспявае гароднiна.

Цялушкі ад нядаўна з'яўляюцца масавым пастаўшчыкам трускалак. І памідоры, і буракі, і капусту, і іншыя культуры можна ўбачыць тут пад фальгой. Адным словам, вёска спецыялізуецца ў агародніцтве. А каб хутка даставіць раннюю гародніну пакуп-

Працяг на стар.4

## ШТО ЧУВАЦЬ У ТУРЫСЦКАЙ БЕЛАВЕЖЫ?

У Белавежы працягваецца турысцкі сезон. Нават пры дрэннай пагодзе можна тут убачыць многа прыезджых. Аднак жа ўзмацняецца тэндэнцыя да змяншэння агульнага ліку наведвальнікаў пушчы. Візуальна гэтага не прыкмячаецца, ды статыстыка паказвае, што ў выпадку краёвых экскурсантаў і турыстаў змяншэнне за першае паўгоддзе г.г. дасягнула пакуль што 1%, а ў выпадку замежных аж 16%. Найбольш ехалі з СССР, ГДР, Францыі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Вялікабрытаніі, ЗША і ФРГ. Аднатавана прадстаўнікоў 32 дзяржаў. Даволі многа прыязджае ў г.г. замежных студэнтаў, асабліва з СССР. Былі ўжо і з Арменіі, і з Эстоніі, і з Беларусі, і з многіх іншых рэспублік. Сярод індывідуальных замежных турыстаў прым у далейшым вядуць немцы з ГДР і французы. Цікава, што сёлета не відаць замнога галандцаў. Затое паявіліся лік чэхаў.

Сярод краёвых наведвальнікаў пераважаюць удзельнікі завадскіх экскурсій, хацям менш бачыцца і ўдзельнікаў лагераў для дзяцей.

Прыезджыя могуць наведаць прыродазнаўчы музей, а таксама запаведнікі зуброў і прыроды. За апошні час дабілася небывалай папулярнасці белавежская царква, збудаваная ў канцы XIX ст. Яна ўжо пару добрых гадоў лічыцца памятнікам старадаўнасці. Амаль штодзень наведваюць яе індывідуальныя турысты і экскурсіі з розных бакоў Польшчы і свету. Пустатой свецяць турысцкія шляхі па добраўпарадкаванай частцы пушчы. Па праўдзе кажучы, ад часу да часу кагосьці тут спаткаеш, ды ўсё такі не ў такім ліку, каб быць задаволеным. Усе штурмуюць запаведнік прыроды, хацям 3/4 гэтых „штурмавікоў“ зусім не ведае, навошта туды ідзе. Думаюць яны, што дзе як дзе, але тут убачаць на кожным кроку дрэвы па 5-6 метраў таўшчыні і не менш 100 метраў вышыні, а за кожным з гэтых дрэў абавязкова мусіць стаяць зубр, алень, дзік. Хтосьці скажа, што я тут ужо перасаліў. З рукой на сэрцы адказваю — не! Спытайце белавежскіх экскурсаводаў. Яны ведаюць найлепш. Неадназова даводзіцца ім весці групу, якая амаль бяжыць па запаведніку, каб хутчэй убачыць тыя велізарныя дрэвы і процьму звяроў, а калі экскурсавод скажа, што ўжо трэба вяртацца, стаяць аслупянелыя і недаверліва гля-



*Белавежа. Адміністрацыйны будынак у цэнтры мястэчка. У ім у час апошняй вайны была катоўня гестапа.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

Працяг на стар.4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

Як мілейчукі бунтаваліся ● Бляскі і цені школьніцтва ў Кузніцы ● Р. Шырма і Беласточчына ● Свая бомба ● Цэгла з Лясанкі ● Чаго толькі душа захоча ● Клуб у Гацьках ● Як даехаць у Кнаразы? ● Весткі з Бельска, Міхалова, Шудзялава, Тарнопаля, Нарвы, Даброміля, Дашоў, Гайнаўкі, Нараўкі ● Калі сонца цалаванне ● Песня „Tylko białe tango“.




# Курорты „былых“ з СС

Шанцуе ж Зантхофену, ціхаму курортнаму гарадку ў альпійскіх перадгор'ях Баварыі. З таго часу, як Штраус выступіў тут паўтара года назад са сваёй пагромнай прамовай, заклікаючы „расквітацца з чырвонай бандай“, Зантхофен не па сваёй віне стаў у Заходняй Германіі сімвалам рэакцыі. А нядаўна гарадок зноў трапіў у гісторыю і зноў пры падобных абставінах.

...У гарадскім парку на лужку сабралася некалькі дзесяткаў немаладых людзей у цёмных пінжаках, абвешаных жалезнымі крыжамі. „Звычайная сустрэча ветэранаў вермахта“, думалі наведвальнікі парку. Але гэта сустрэча ветэранаў у Зантхофене была не зусім звычайнай.

Ганарлівага выгляду стары, якога астатнія называлі панам генералам, агледзеў прысутных, якія выстраіліся ў шарэнгі.

„Обершарфюрэр Бук, крок наперад“, — сказаў ён, як на пляцы, прускім казарменным голасам. Вялізны дзяцюк выйшаў са строю і выцягнуўся перад „генералам“. „Нашай арганізацыі — ХІАГ, таварыству тых, хто служыў у СС, удалося пры садзейнічанні архіўнага ўпраўлення міністэрства абароны адшукаць дакументы, якія пацвярджаюць, што незадоўга да канца вайны, у маі 1945 года, вы былі ўзнагароджаны рыцарскім крыжам. Мы сабраліся тут для таго, каб уручыць вам гэту заслужаную ўзнагароду“.

Лютая фізіяномія обершарфюрэра Бука ззяла. Напэўна, ён успомніў у гэта імгненне, як у апошнія дні вайны гнаў на верную смерць старых-фольксштурмістаў і хлопчыкаў з гітлерюгенда і вешаў на слупах салдат, якія не жадалі больш ісці ў бой. Састарэлыя эсэсаўскія галаварэзы з яўнай цяжкасцю стрымлівалі жаданне пракрычаць „Зіг хайль!“

Адстаўны генерал войск СС Ломбард, які камандаваў у гады вайны карнай „Першай эсэсаўскай кавалерыйскай брыгадай“, аб крывавых злачынствах якой не забылі ў гарадах і вёсках Беларусі, з задавальненнем аглядваў строй.

Скандальная гэта гісторыя трапіла ў друк. Хтосьці з выпадковых гледачоў напісаў пра зантхофенскі шабас у леваліберальную „Франкфуртэр рундшаў“.

Прэзідыум аб'яднання асоб, якія праследаваліся пры нацызме (ФФН), вядомай у ФРГ прагрэсіўнай арганізацыі, звярнуўся за тлумачэннямі ў міністэрства абароны ў Боне і ў баварскае міністэрства ўнутраных спраў. Ён заявіў пратэст супраць той непрыгляднай ролі, якую міністэрства абароны і бундэсвер адыгрываюць, супрацоўнічаючы з былымі эсэсаўцамі, і запатрабаваў забараніць у адпаведнасці з канстытуцыяй ФРГ арганізацыю ХІАГ.

Міністэрства абароны палічыла за лепшае прамаўчаць. А вось баварскае міністэрства ўнутраных спраў зрабіла ласку і прыслала адказ, у якім гаварылася, што ХІАГ як арганізацыя ветэранаў не з'яўляецца небяспечнай для канстытуцыйнага ладу ФРГ.

Адказ баварскіх законнікаў з ХСС выклікаў выбух абурэння ў шырокіх слаях заходнегерманскай грамадскасці. У спецыяльным прэс-бюлетэні ФФН адзначалася ў гэтай сувязі, што міністэрства абароны і камандаванне бундэсвера, якія падвяргаюць суровым дысцыплінарным спагнанням ваеннаслужачых, што прымаюць удзел у дэмакратычных акцыях і дэманстрацыях, у той жа час лічаць магчымым супрацоўнічаць з арганізацыяй былых эсэсаўцаў. Як падкрэслівалася ў бюлетэні, асаблівую трывогу выклікае тая акалічнасць, што сярод афіцэраў бундэсвера малодшых узростаў у апошні час назіраецца ўзмацненне ультраправых тэндэнцый. Толькі за прайшоўшыя некалькі месяцаў мела месца ўжо нямала выпадкаў, калі маладыя афіцэры бундэсвера ў поўнай форме прымалі ўдзел у сходах, праводзімых ХІАГ і іншымі неанацысцкімі арганізацыямі.

**Н. Партугалаў.**






# АБ БЕЛАРУСКАЙ ГРАФІЦЫ І ГРАФІКАХ

Як жа ж мала мы ведаем па гісторыі беларускага мастацтва!.. У той час, калі нам няцяжка назваць дзесяткі два або нават і тры мастакоў Польшчы, ці Расіі або Францыі, мы з вялікай натугай выскрэбваем у нашай памяці ўсяго толькі пяцьшэсць прозвішчаў беларускіх майстроў пэндзля і разца. Зразумела, маю тут на ўвазе сябе і сабе падобных, а не спецыялістаў з кола беларускіх мастацтваведаў. А маем жа мы, беларусы, мала чым меней ад іншых народаў таленавітых прадстаўнікоў выяўленчага мастацтва, але не ўмеем папулярызаваць іх багатай творчасці... — Такія думкі прыходзяць мне ў галаву, калі я дачытаў да канца кнігу В. Ф. Шматава „Беларуская графіка 1917-1941 гг.“, што ў мінулым годзе выйшла ў мінскім выдавецтве „Навука і тэхніка“ і была падрыхтавана ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Якраз гэтае выданне ў некаторай ступені запаўняе прабел у нашых ведах аб мінулым беларускага мастацтва, яго „найбольш масавым, злабадзённым і аператыўным“ відзе — графіцы. Пішу „ў некаторай ступені“ зусім свядома і мэтанакіравана, бо як гаворыцца на пачатку „Уводзін“ да гэтай маленькай (усяго 120 старонак друку!) кніжачкі: „Адной з актуальных праблем нашага мастацтвазнаўства з'яўляецца напісанне гісторыі беларускага мастацтва Аднак такая гісторыя можа быць створана толькі пасля папярэдняга даследавання асобных відаў і жанраў, у тым ліку графікі“. Значыць, у бліжэйшым часе можам спадзявацца большай колькасці публікацый мастацтвазнаўчага характару. І іх мы нецярпліва чакаем.



*А. Тычына. „Мінск. Савецкая вуліца“. Туш, бялілы. 1931 г.*

Кніжка В. Ф. Шматава не прэтэндуе на манаграфічнае даследаванне, а з'яўляецца хутчэй за ўсё досыць шырокім нарысам па гісторыі беларускай савецкай графікі даваеннага часу, напісаным з добрым веданнем матэрыялу.

У ёй знаходзім перш за ўсё характарыстыку трох асноўных цэнтраў, якія ў розным часе ў гэтым перыядзе дзейнічалі ў Віцебску, Мінску і Вільні, гуртуючы значную колькасць мастакоў-графікаў. Пры гэтым аўтар найбольш увагі прысвячае цэнтру, дзе ў гадах 1918-1923 разгарнула надзвычай інтэнсіўную творчую дзейнасць вялікая група творцаў, між іншым Ю. Пэн, С. Юдовін, М. Дабужынскі, М. Шагал, К. Малевіч, Л. Лісіцкі і іншыя, працы па графіцы і тэарэтычныя высновы якіх пакінулі адметны след не толькі ў паўстаючай беларускай графіцы, але і ўнеслі важкі ўклад у развіццё ўсёй савецкай графікі. „Першыя беларускія савецкія мастакі былі адначасова і вучонымі і даследчыкамі, — заўважае В. Ф. Шматаў, калі піша аб групе мастакоў, якія гуртаваліся ў Мінску. — Яны ўсебакова вывучалі свой край, імкнуліся паказаць яго адметнае хараство“. Належалі да іх М. Філіповіч, А. Грубэ, М. Станюта, А. Тычына і іншыя. Выдатнае месца ў беларускай графіцы займае А. Астаповіч — „сапраўдны пясняр беларускага краявіду“. А. Тычына быў пеўцам індустрыялізацыі рэспублікі, у творчасці Г. Змудзінскага дамінавала ваенная тэма, М. Філіповіч засяроджваў сваю ўвагу на беларускай народнай творчасці, Я. Мінін вядомы быў як філігранны і дакладны разьбяр, а таксама развівалі сваю творчасць іншыя графікі. Коратка, але ўсё ж, характарызавана віленскае асяроддзе графікаў, якое дзейнічала ў гадах 1921-1939. В. Ф. Шматаў абмяркоўвае працы майстра-самародка Я. Драздовіча — аўтара графікаў з мінулага Беларусі, Я. Горыда — сатырыка са славутага часопіса „Маланка“ і ілюстратара шэрагу віленскіх беларускіх выданняў, М. Сеўрука — пеўцы жыцця працоўнага люду Заходняй Беларусі, П. Сергіевіча — творцы дасканалых замалёвак з натуры і партрэтаў, сярод іх К. Каліноўскага, а таксама творчасць іншых заходнебеларускіх мастакоў. І тут варта прыгадаць істотны для нас, жыхароў Беласточчыны, урывак з кнігі: „Апрача Вільні графіка займала значнае месца ў творчасці мастакоў Б е л а с т о к а (падкрэсленне маё — І. С.), дзе працавалі Ю. Краеўскі, І. Кшчаноўскі, Е. Малярэвіч, Х. Тыбер і інш. У 1940 г. творы мастакоў Беластока былі паказаны на спецыяльнай выстаўцы ў Мінску. Крыху пазней яны дэманстраваліся ў Маскве на дэкаднай выстаўцы. Як адзначалася ў тагачасным друку, на гэтых выстаўках асабліва вылучаліся працы Краеўскага“.

Ці вядома нашым чытачам што-небудзь аб гэтых беластоцкіх творцах? Неабходна заняцца нашымі слаўнымі землякамі! Можа і мы ўнясем крышынку каштоўнага ў гісторыю беларускага мастацтва... **І. Снарскі**

**Весткі з суседняй Гродзеншчыны**

### МІНСК — ГРОДНА

Нядаўна распачата будаўніцтва новай аўтамабільнай магістралі „Мінск-Гродна“. Па тэрыторыі Гродзенскай вобласці траса будзе ўзводзіцца на даўжыні 70 км. Дзяржава на яе ўзвядзенне выдзеліла 18,4 мільёна рублёў. Новая дарога будзе адпавядаць самым высокім патрабаванням сучаснасці.

На тэрыторыі Іўеўскага раёна работы вядуцца ўжо шырокім размахам: будаўнікі дарогі асвоілі каля мільёна рублёў.

### ЛІДСКАМУ ПІВУ — 100 ГАДОЎ

У Мінску, Маскве, Ленінградзе, у многіх населеных пунктах суседняй Літвы добра ведаюць аб лідскім піве, бо яно з'яўляецца надзвычай смачным, адзначана „Знакам якасці“ СССР.

Такога поспеху Лідскі піўзавод дасягнуў не выпадкова: нядаўна споўнілася 100 гадоў з дня яго заснавання — за гэты час набыта багацейшы вопыт па выпуску выдатнага піва. На ўрачыстасці з нагоды юбілею група перадавікоў прадпрыемства ўзнагароджана ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

### ПАСЯБРАВАЛІ З ВУЧОНЫМІ

Чаму Бярозаўскі шклозавод „Нёман“ выпускае адмысловую прадукцыю з крышталю і шкла? Рабочыя на гэта адкажуць: дапамаглі вучоныя навукова-даследчых установ РСФСР. Калектыў Слонімскага аўтазавода падтрымлівае сувязі з Інстытутам зваркі імя Патона Украінскай ССР і Інстытутам надзейнасці і даўгавечнасці Акадэміі навук БССР, у выніку — значна ўдасканаліў тэхналогію вытворчасці. З вучонымі сябруюць рабочыя многіх прадпрыемстваў Гродна, Валкавыска, Ліды, Навагрудка.

**С. Якацук**




**Sobota 4.IX.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 8.30 Pr. dnia. 8.35 Pr. I prop. 8.50 Red. Szk. zap. 9.00 Pr. na dz. d. 9.40 Słupska sobota — rep. film. 10.00 Dla szkół (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 Za kierownicą. 10.30 Miłość w przyrodzie — film dok. 12.00 STUDIO 2. 12.05 Przeboje i debiuty. 12.20 Dzien. 12.25 Rep. 12.45 Mistrz. Pol. w zawodach — Szyprowie cz. I. 12.55 Śpiewa A. Pugaczowa. 13.15 Poprawka do wyobraźni — rep. film. 13.30 Szyprowie cz. II. 13.45 900 sekund rytmów i mel. 14.00 Salon osobliw. 14.25 Coś takiego. 14.35 Co o tym myślicie. 14.45 Halo, tu Interwizja. 15.00 Złota godzina — Hubert Wagner. 15.50 Encykl. znaczeń polit. 16.05 Szyprowie cz. III. 16.20 Muzyka i dobre obycz. 16.35 Święty — film ang. 17.25 Dwa zdania. 17.40 Zemsta nadchodzi o zmierzchu — film. 18.05 Muz. odp. na listy. 18.25 Następni z listy naj. 18.40 Śpiewa I. Ponarowska. 19.00 W odp. na Wasze listy. 19.10 Dobr. 19.30 Monitor. 20.25 Szczęście w nieszczęściu — film fab. USA. 22.25 Dzien. 22.35 Gwiazdy estr. 23.05 Nóżki na stół — rep. film. 23.25 Właśnie leci Kabarecik. 23.50 Kino Nocne.

— * —

**Niedziela 5.IX.** 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.40 Sport dla wszyst. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 W starym kinie. 12.00 Dzien. 12.20 L. Bernstein dyryguje w Londynie. 12.55 Piórkiem i węgl. 13.20 Dla dzieci: Szewczyk Dratewka — wid. 13.50 COSTA. 14.20 Jest miasto nad Wołgą — rep. film. 14.40 Los. Duż. Lot. 15.00 Mistrz. Świata na żużlu 17.40 Teatr Muz. B. Shaw — Żołnierz i bohater. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Toto, Pepino i słodkie życie — film fab. wł. 21.45 Róże Montreux. 22.20 Sport.

— * —

**Poniedziałek 6.IX.** 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.10 Gorące serca — film ser. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Relacja. 21.30 Pr. oświat. 21.55 Dzien. 22.10 Recital Kati Kovacs.

— * —

**Wtorek 7.IX.** 7.00 Pr. na dz. d. 7.20 Toto, Pepino i słodkie życie — film fab. wł. 9.00 Mat. dla najmł. 11.05 Dla szkół (kl. III lic.) J. pol. H. Ibsen „Nora”. 12.00 (kl. IV lic.) St. Grochowiak — Partita na instr. drew. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Lekt. Peg. 17.20 Rep. film. 17.50 Fakty, Op., Hip. 18.25 Stud. Mł. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Brama Morska — dramat obycz. ZSRR. 22.05 Dzien. 22.20 Świat i Polska. 23.05 Pr. balet.

— * —

**Środa 8.IX.** 7.25 Brama Morska — film fab. ZSRR. 9.00 Dla szkół (kl. VI) Fiz. O miarach i mierzeniu. 10.00 (kl. VII) Siły i maszyny. 12.00 (kl. VII—VIII) Wych. plast. Malarstwo cz. I. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Teatrzyk dla Przedszkol. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.40 Godzina Jana Ptaszyna Wróblewskiego. 18.30 Pr. publ. 19.10 Wyst. Amb. Bułgarii. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Pół żartem, pół serio — film fab. USA. 22.20 Dzien. 22.35 Piosenki AMIGI.

— * —

**Czwartek 9.IX.** 9.00 Dla szkół (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. 10.00 Pół żartem, pół serio — kom. USA. 12.55 Dla szkół (kl. IV lic.) J. pol. Insc. tel. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.05 Patrol. 18.30 Inf., Wyd. 18.40 Rodzina. 19.05 Przyp., radz. 19.10 Wyst. Amb. KRLD. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Film fab. 21.30 Pegaz. 22.15 Dzien.

— * —

**Piątek 10.IX.** 9.00 Dla najmł. (kl. III) Legenda o bazyliszku. 11.05 Dla szkół (kl. I—III lic.) Wych. tech. Technologia i tech. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Latający Holender. 18.10 Kraby — film przyr. jap. 18.40 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Beniamiszek — film TP. 21.20 Operowe qui pro quo. 22.40 Dzien.




**Piątek 3.IX** — 8.15 Film fab. 13.45 Film fab. 17.00 Koncert. 17.30 P. nożna. Puchar ZSRR. Finał. 19.45 Koncert. 20.50 Filmy anim. dla dor.

**Sobota 4.IX** — 10.15 Koncert. 11.30 Film fab. 13.30 Nie do wiary. 14.20 Film anim. 14.40 i 16.15 Hokej. ZSRR—Czech. 17.10 Film dok. 18.00 Teatr miniatur. 19.30 Koncert.

**Niedziela 5.IX** — 11.30 Film fab. 13.25 Koncert. 15.05 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.35 Piosenka—76. 17.00 Klub film. 18.00 i 20.00 Hokej. ZSRR—Szwecja. 20.40 Koncert.




**Białowieża** Legenda o Paulu i Pauli — NRD 7—8. Jak zdobyć prawo jazdy — fr. 9—10. Gdyby Don Juan był kobietą — fr. 11—12.

**Czyże** Zaklęte rewiry — pol. W drodze na Kasjopeję — radz. 8—12.

**Gródek** Jarosław Dąbrowski — pol. 11—12.

**Kleszczele** Pożegnanie z diabłem — pol. 7—8. Julia, Julka, Juleczka — NRD 9—10. Przyjaciele Eddiego — USA 11—12.

**Michałowo** Podwodna odyseja — kan. 7—8.

**Mielnik** Taka ładna dziewczyna — fr. 8. Wielki Gatsby — USA 11—12.

**Narew** Wążżżż... — USA. Przygody małego Bimbo — rum. 8—12.

**Nurzec** Cień — pol. 7—8. Pan Wołodyjowski — pol. 9—10. Kazimierz Wielki — pol. 11—12.

B.Z.Graf. Zam. 1988 F-4

 

# ШТО ЧУВАЦЬ У ТУРЫСЦКАЙ БЕЛАВЕЖЫ?

(Працяг са стар. 1)

дзяць, ці іх не абдурыў? Ідуць потым назад і плююць сабе ў бараду, навошта сюды ішлі. Развеяліся раз назаўсёды іх міфы аб запаведніку як зборышчы драўляных матузалемаў і неперабраным ліку звярыны. Мо гэта і добра. Мо ўрэшце глянуць на пушчу так, як трэба глядзець. Таму ад сябе заахвочваю ўсіх да вандровак па шляхах у добраўпарадкаванай пушчы. Неабходна толькі пры гэтым купіць у Белавежы брашуру Хрысціны Фалінскай „Прыродазнаўчыя экскурсіі па Белавежскай пушчы“, у якой знаходзяцца апісанні спамянутых шляхоў. Такое вандраванне, самастойна або і ў групе, дасць не толькі незабыўныя ўражанні, але перш за ўсё дапаможа пазнаць пушчу знутры, пазнаць яе жыццё, красу. Сапраўды, лепш адкрыць незвычайнасць там, дзе яе не спадзяемся, чым не знайсці там, дзе ўяўляем, што яна павінна быць.

Балюча адчуваецца ў Белавежы недахоп цэнтра, у якім можна было б весці для турыстаў гутаркі ці даклады на тэму Белавежскай пушчы. Часам бывае так, што цэлы дзень лье дождж. Куды тады падзецца экскурсантам? Можна, праўда, наведаць прыродазнаўчы музей, ды гэта зойме толькі адну гадзіну. У лес у такую пагоду няма чаго ісці. Па неабходнасці астаецца ўвайсці ў рэстаран, заказаць пляшку чагосьці мацнейшага і піць. І так да гэтага часу робяць шматлікія экскурсіі. Каб быў такі цэнтр, было б зусім інакш. У дрэнную пагоду можна было б паслухаць цікавыя расказы аб жыцці пушчы, спалучаныя з дэманстрацыяй каляровых дыяпазітываў ці кароткаметражных фільмаў. Мне здаецца, што месца на цэнтр можна знайсці ў старадаўнім будынку, у якім цяпер змяшчаецца турысцкі бар. Бар, зразумела, давялося б ліквідаваць. У гэтым самым будынку, можа, ўдалося б атрымаць адзін пакой для бюро абслугоўвання турысцкага руху ПТТК, таму што памяшканне, якое яно цяпер займае, надавалася б толькі для гномаў. Сапраўды, не ведаю, як можна нармальна працаваць у пакойчыку, у якім стол не можа змясціцца, а што ўжо гаварыць, калі прыйдзе хаця б адзін кліент?

**П. Байко**



*Белавежская царква, збудаваная ў канцы XIX ст.*

ЧАМУ?

*Летам і зімою,*
*Вясной, на прадвесні*
*Ніколі не ўчуеш*
*Народнае песні.*
*Усяго нам хватае,*
*Усяго даволі,*
*Ніхто не спявае*
*На вёсцы і ў полі.*
*Куды пайшлі з вёскі*
*Вясёлы дзяўчаты,*
*Што вечарам пелі*
*На лаўцы ля хаты?*
*У вечар зімовы,*
*Як кудзелю пралі,*
*Да позняе ночы*
*Пелі, запявалі.*
*Калісьці, як у полі*
*Жыта дажыналі,*
*Усё ім балело,*
*А песні спявалі.*
*Цяпер лёгка жыці,*
*Грошай многа маюць,*
*Замест пеці песні —*
*Злуюць, наракаюць.*

**А. Леўшук,**
Ціванюкі

(Працяг са стар. 1)

# ЖЫВУЦЬ ЯНЫ НАД НАРВАЙ

шчыкам у горадзе, неабходна мець свой уласны транспарт. І многія гаспадары маюць свае аўтамашыны. На больш як 60 гаспадароў ўжо адна трэць іх, так сказаць, механізаваная. Найбольшыя плантатары і, зразумела, найбагацейшыя, маюць „Нысы“, „Жукі“, „Сірэнкі“ або іншыя машыны. Назаву іх прозвішчы: Яўген Харытанюк, Уладзімір Паўлючук, Мікалай Ісаюк, Іван Васілюк, Іван Паўлючук, Іван Андрэюк, Уладзімір Грыгарук, Канстанцін Максімюк, Мікалай Васілюк, Іван Нікалаюк, Мікалай Максімюк, Аляксандр Дулько, Максім Андрэюк, Пётр Ігнацюк, Мікалай Харытонюк, Мікалай Іванюк, Уладзімір Лук'янюк, Ільля Данілюк, Віктар Тарасюк, Васіль Данілюк. А Міхаіл Іванюк і Павел Марчук маюць уласныя трактары, да якіх дачапляюць вазы-балоны, і таксама хутка ўпраўляюцца з вывазам сваіх прадуктаў на рынак або на дзяржаўныя пункты скупу. Праўда, плантатары Цялушак не робяць так, як плантатары Паўлаў, Рыбал ці іншых вёсак, якія ўвесь свой ураджай кантрактуюць і прадаюць дзяржаве. Цялушкаўцы, хоць часамі трацяць на гэтым, але любяць везці самі, сваім транспартам тавар у Беласток, Бельск, Гайнаўку ці нават у Васількаў. Але гэта ўжо іх асабістая справа. Найважнейшае, што прадукуюць многа агародніны.

**Міхась Хмялеўскі**

Вось гэта пытанне! Як усім і ўсюды вядома, кожны рабочы мае права на нармальны платны водпуск, працяг якога ўзалежнены ад колькасці перапрацаваных гадоў. Хто праводзіць яго дома, хто выязджае — гэта справа выключна асабістая. Найважнейшае, што ёсць гэтая крыніца, дзе можна змыць, наросшую за год, напружанасць і зачарпнуць хаця жменьку новых сіл, несумненна многа дапамогуць на працягу наступнага года. А што з паштальёнамі? Водпуск, зразумела, маюць як і ўсе, толькі карыстаць з яго не заўсёды прыходзіцца. Яшчэ ў горадзе неякнеяк, але на вёсцы, то амаль абсалютна. А справа ў тым, што кожны паштальён, ідучы на адпачынак, павінен

## КАЛІ АДПАЧЫВАЮЦЬ ПАШТАЛЬЁНЫ?

знайсці на сваё месца замену. Вось тут і праблема! У горадзе, дзе паштальёнаў большая колькасць, адзін заступае другога, але на вёсцы, як працуе адзін або два і абслугоўвае з чатырнаццаць цэнтраў насялення, такі спосаб немагчымы. А сярод вясковых жыхароў, будзь такі хітранькі, знайдзі, каб нехта згадзіўся заступіць. У кожнага свая работа і за ніякую плату не пакіне ён на полі снапоў ці сена і не паедзе развозіць газеты. І такім чынам паштальёны вясковых поштаў цэлы круглы год, не маючы ніякага ўяўлення аб водпуску, вымушаны круціць педалі веласіпедаў або зацiскаць газавую ручку матавероў ды аб'язджаць кожны дзень свой тэрэн. А адпачынак, здавалася б, усім належыцца. Ды вазьмі тут адпачні. Газеты ды пісьмы чакаць не могуць. Не развёз — значыць, макулатура. Дырэкцыя павінна прыдумаць нешта і для іх. Выхад павінен знайсціся.

**М. Шаховіч**

# Што здарылася з кнігарняй?

Сапраўды, быццам бы нехта яе падмяніў. Зусім не тая, што была раней. А яшчэ гады два-тры таму назад усё тут было інакш. Пра бельскую кнігарню ведалі не толькі на Беласточчыне, але і ў цэлай Польшчы. Наведвалі яе і навуковыя працаўнікі, і студэнты беларускай філалогіі, і ўсе, каго толькі цікавіла беларуская кніга. Можна было атрымаць і мастацкую літаратуру, і гісторыю, і навуковыя апрацоўкі. Адным словам была гэта адна з лепшых, а можа нават не будзе памылкай, калі скажам, што найлепшая (маючы на думцы, зразумела, кнігі на беларускай мове) кнігарня ў краіне. Справа ўжо нават не ў купляння, бо купіць заўсёды можна было нешта новае. Амаль у кожнай дастаўцы былі нейкія навінкі. Але апрача таго і падпісацца можна было на выданні шматтомныя, бо і такія сюды даходзілі. Ды што там гаварыць. Хапіла толькі глянуць на вітрыну — і ўсё было вядома. Стаялі цэлыя серыі „Бібліятэкі беларускай прозы“, былі таксама кнігі з серыі „Беларуская народная творчасць“ і іншыя. Што ж здарылася цяпер? Вітрына амаль пазбаўлена беларускіх кніг. Калі часам нейкая туды заблудзіць — гэта ўжо вялікае свята. Безупынна, калі толькі не зойдзеш у кнігарню, чуецца адзін і той жа адказ: нічога новага не прыслалі. Што ж будзе далей? Дакуль жа будуць чакаць падпісчыкі, якія падпісаліся прыкладна на „Збор твораў“ Я. Купалы ці Я. Коласа? Бо трэба сказаць, што калі свет ўбачылі ўжо 7 і 9 тамы, то ў бельскай кнігарні як паказаліся дзве ці тры кніжкі, то так стаіць усё на мёртвым пункце. Гэтак жа нельга. Ці проста забыліся, што гэтая кнігарня існуе, ці можа яе кіраўніцтва не напамінае аб сабе? Бадай жа з той мэтай пабудавалі гэты будынак і назвалі „кнігарняй“, каб прадаваць там кнігі. Але там не толькі беларускіх кніг не хапае, але і з кнігамі на рускай мове вялікая праблема. Заўсёды амаль тыя самыя. Час ужо над гэтым задумацца. (мш)

## Толькі з Лукі 1200

На пункце скупкі малака ў Луцэ (гміна Нараўка) чацверты год працуе зборшчыцай Вольга Панікеўская. Штодзень яна адсылае на гайнаўскае малачарскае прадпрыемства 1200 літраў малака, якое прыносяць 94 жыхары Лукі, Дворыска і Слабодкі. Найбольш малака дастаўляюць: Канстанцін Самойлік (ад пяці дойных кароў), Мікалай Стоцкі і Уладзімір Саўко — усе з вёскі Лука. Тутэйшыя сяляне маюць добрае сена з адпаведна дагледжаных наднараўскіх сенажацяў. (ця)




*У нараўкаўскай гарадской сталовай „Чар пушчы“ сапраўды адна толькі чароўнасць. Нават блюда, якое заказалі сабе на абед, і тое трэба есці стоячы або ходзячы, бо гарэлачнікі ды півачнікі тут тое самае, што ў Індыі карова — усе месцы належаць да іх.* *(мша)*

←

дзімірскае. Тут князь быў сам сабе гаспадар, пасад свой ад бацькі атрымоўваў, адтуль ён і вотчынай завецца. Наўгародская зямля тымчасам вечам правілася. Мужы наўгародскія ў звон вечавы ўдарыўшы, на раду ўсе збіраліся і супольна справы зямлі свае рашалі. На гэтым жа вечы князёў сабе выбіралі, або выганялі з Ноўгарада.

І прыйшлося ж яму, Раману, не ўмудронаму вопытам, усяго васемнаццаць год меўшы, прыняць па наўгародцаў ды бацькі волі гэты хісткі князеўскі пасад.

Вядома ж, бацька, князь Мсціслаў Ізяслававіч, не спадзяваўся тады, што прыдзецца яму сысці з высокага пасаду князя кіеўскага, вялікага князя ўсяе Русі. Вось і намагаўся ён да сваіх рук вольнадумны Ноўгарад прыбраць, пасадзіўшы ў ім свайго сына. Не збыліся, аднак, бацькавы спадзяванні. Прагналі князі зайздросныя Мсціслава Ізяслававіча з вялікакняжацкага кіеўскага пасаду. Што ж, відаць пабойваліся, каб князі ўладзімірскія занадта ўгору не пайшлі і на вялікім княжэнні не ўмацаваліся.

На пушчу апускаўся сыры ды зудны верасеньскі надвячорак. Моцна пахла старой грыбнёй ды апалым лісцем. Коні ішлі ахвоча, спадзяючыся, што перад змрокам дастануць торбу са свежым аўсом.

Та-а-ак... Але Раман праз усе чатыры гады свайго княжэння ў Ноўгарадзе не сядзеў склаўшы рукі. Праўда, спачатку спраў і людзей наўгародскіх не ведаючы, ва ўсім абапіраўся на мясцовай знаці і яе парадах. Аднак судоў праўляць не любіў, яму больш па сэрцу былі паходы. Ну і хадзіў са сваёй дружынай на бераг бурлівага Няво-возера і сядзеў там усю восень і зіму ў каменнай крэпасці Арэшак. Уладкоўваў справы паўночных уладанняў Ноўгарада. Прасціраліся ж яны на ўсходзе аж да вялікіх гораў Уральскіх, а на поўначы абымалі і пабярэжжа Белага мора і акіяна Паўночнага. Краіна гэта неабсяжная і багатая. Бывала, зімою купцы наўгародскія і іх падручныя абозамі саней у сорак звозілі ў Арэшак дарагія футры лісіц-пясцоў, сабалёў, белых вевярыц ды іншага звера. І ўся гэтая прастора была неўмацаваная, без крэпасцей і засекаў. Вось і даводзілася Раману разам са сваімі военачальнікамі выбіраць адпаведныя месцы на ўмацаванні, рубаць невялічкія крэпасці, ставіць цівуноў, судзіць ды радзіць, каб наўгародскія таргашы чуліся тут пэўна і спакойна. Але на самай справе, гэтае амаль штогадовае сядзенне ў Арэшку было ні чым іншым, як высылкай яго, Рамана, з Ноўгарада на поўнач, каб занадта ў горадзе месца сабе не абагрэў ды моцнага гнязда не звіў. Але ён зусім не шкадуе, што прабыў у Арэшку столькі часу. Калі яго грыдзі-дружыннікі раз'язджаліся з даручэннямі ў адлеглыя паўночныя ды ўсходнія вервіакругі і неадкладных спраў у крэпасці не было, ён узбіраўся на крапасную сцяну і любаваўся хараством прыазёрнага краю.

А і было на што паглядзець. Яшчэ цяпер стаіць уваччу неабсяжная здань возера, якое наўгародцы звалі Няво, а мясцовыя людзі — Ладагай. Да самых яго берагоў падступалі меднастволыя гонкія сосны, і, здавалася, толькі града адшліфаваных хвалямі і ільдом прыбярэжных валуноў ахоўвала лес ад патаплення водамі, настолькі яно выглядала выпуклым, узвышаючымся над усім наваколлем. Купечаскае судна плыло па ім, як быццам узбіраючыся на гару, узвышалася над прыбярэжнымі лясамі і нават над самай крэпасцю. Хвалі з белымі грывамі раз-пораз накідваліся на камяністы бераг вострава, на якім ўзвышалася крэпасць, і завываў усцішна праніклівы паўночны вецер. Востраў знаходзіцца якраз у істоках ракі Нявы, што двума рукавамі выцякае з Ладагі. Рукавы гэтыя глыбокія, іх шырыня ды вірыстая сцюдзёная плынь не да пераадолення наймужнейшаму нават плаўцу. Крэпасць займае ўвесь востраў. Яе каменныя сцены ў шэсць сажаняў увышыню падымаюцца стромка ад самай вады. І доступу да яе няма ніякага. Уваход і выхад толькі адзін: камяністы канал, што аграмаднай, абліцаванай каменем пячорай уваходзіць ва ўнутр крэпасці і ахоўваецца варотамі-накрыўкай з акутых жалезам дубовых плахаў. Няпрошанаму госцю ўвек не прабрацца ў крэпасць. Не дзіў, што і празвалі яе Арэшкам, ніхто не змог яго раскусіць: ні фіны, ні варагі, колькі б разоў не падплывалі яны пад яе сцены...

— Спяшаймася, княжа, а то і ноч нас у пушчы застане, — азваўся Выжыч, зганяючы марава Раманавых успамінаў. Ён злёгку пацiснуў каня пятамі, той хутчэй стаў перабіраць нагамі па коўзкім лясным гасцінцы, і думкі зноў залуналі на далёкай поўначы.

Калі ж вясною з Ладагі ў Няву сплывала лядовая шуга, і ў Арэшак можна было прабірацца на лодцы, у крэпасці з'яўляліся наўгародскія пасыльныя. Весці былі розныя, пераважна запрашалі князя на ўрачыстасці або на разбор судовых спраў. Але на гэты раз веставыя прыехалі зусім з чым іншым. Князь суздальскі Андрэй Багалюбскі авалодаў Кіевам, пазбавіў вялікакняжацкага пасаду князя Мсціслава Ізяслававіча. Цяпер, вядома, ганарлівы Андрэй падыме на конь поў-Русі і рушыць супраць Ноўгарада, каб, па-першае, расправіцца з Раманам, сынам ненавіднага яму Мсціслава, па-другое, пазбавіць наўгародцаў іх багацця, а мо і свабоды. Таму Раман і яго дружына сталі неабходнымі ў Ноўгарадзе. Ад іх наўгародцы спадзяваліся шмат. Вядома ж ім была славутая перамога Рамана над суздальцамі ў мінулым годзе на Белым возеры. Тады яны ўвачавідкі пераканаліся, што можа ўчыніць дваццацігадовы князь і яго дружына. Гэта ж ён з атрадам усяго ў чатырыста коп'яў сустрэўся з аграмадным апалчэннем суздальцаў, разбіў іх наголаў, кладучы мёртвымі тысячу і трыста вояў Андрэевых. Так ён утрымаў у наўгародскім уладанні зямлю Завалочную.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## „Бэтэска" ў Кляшчэлях

Шматгалінная спулдзельня ў Гайнаўцы пабудавала ў 50-ыя гады ў Кляшчэлях будынак, прызначаючы яго на метала-драўніннае прадпрыемства. Прадпрыемства такое, аднак, тут не ўзнікла. Потым будынак купіў кляшчэлеўскі ГС і там да 1967 года змяшчаўся кармавы магазін.

Цяпер будынак дзяржавіць ад гміны „Бэтэска".

„Бэтэска" — гэта фабрыка бакеліту. Пастаянная прадукцыя пачалася 15 мая 1968 года. Большасць вырабаў — гэта розныя часці — закруткі і ўхвыты для кухонных прыладаў, а таксама элементы для іншых машын.

Уся праца выконваецца ўручную. Гэта праца паглынае шмат часу, але выконваецца дакладна, таму і высокая якасць прадукцыі.

За галоўным будынкам вырастае будынак сацыяльнага прызначэння. На жаль, будуецца ён памалу, бо няма спраўных выканаўцаў.

У цяперашнім сацыяльным будынку абсталюецца цэнтральнае ацяпленне для прадпрыемства.

На гэтай малой фабрыцы працуе 35 асоб непасрэдна ў прадукцыі і 9 асоб абслугі. Ёсць 10 прэсаў ручных і 7 гідраўлічных. Адчуваецца недахоп аўтаматызацыі.

Вядзецца індывідуальнае спаборніцтва ў працы. Ініцыятарам яго быў кіраўнік прадпрыемства Рыгор Дмітрук, на прызнанне за працу заслугоўвае Генавефа Дрангоўская — прасавач.

На фабрыцы „Бэтэска" ў Кляшчэлях дзейнічаюць партыйная і маладзёжная арганізацыі.

**Збігнеў Келбік**




**ЗГОДНА ЖЫЦЬ**

*Згодна жыць, браце, з народам —*
*То не трудна нам усім.*
*Як сусед з суседам, згодна,*
*Дружна й весела жывуць.*
*Калі дома ёсць няшчасце —*
*Да суседа ты пабег,*
*І заўжды сусед суседу*
*У кожнай бядзе дапамог.*
*Можа, швагер твой далёка*
*Брат у горадзе жыве—*
*Кліч суседа ў гасціну,*
*Кліч суседа ў бядзе!*
*Людзі меншае на вёсцы —*
*Астаюцца старыкі.*
*Трэба жыці усім згодна,*
*Адзін другому памагчы.*
*Тады будзе усім добра,*
*Менш будзе у нас бяды.*
*Калектывам ўсё збудуеш —*
*Не збудуеш ты адзін.*

**М. Лук'янюк**

любіў Маскву, у час канікулаў пабываў у многіх месцах Беларусі, Украіны, Расіі. І заўсёды разам з ім быў яго верны сябра Іван Раманчук.

У 1928 годзе Раманчук ажаніўся.

— Бач ты, які спрытны. Маладзейшы за мяне, а ажаніўся раней, — жартам папракаў яго Арлоўскі. А праз год ажаніўся і сам. Жонкай яго стала студэнтка-аднакурсніца Наташа Будзюк. І хоць была яна маладзейшая за Арлоўскага на сем гадоў, але не песціла яе жыццё, шмат давялося ўбачыць і перажыць.

З роднай Брэстчыны ваенная хваля бежанцаў закінула яе ў далёкую Сімбірскую губерню. Там была за няньку ў купца, працавала санітаркай у ваенным шпіталі. Грамадзянская вайна застала яе ў Краснаярску. Калі горад захапілі войскі Калчака, Наташа разам з братам хавала зброю для падпольшчыкаў, а часам — і самiх падпольшчыкаў. Пасля вайны вярнуліся ў Беларусь.

...Ішоў 1930 год, апошні год вучобы ва універсітэце. Усё часцей студэнты пачыналі бурна абмяркоўваць хвалюючае пытанне — куды і кім накіруюць іх пасля вучобы. Задумваўся над гэтым вечным для студэнтаў пытаннем і Кірыла Арлоўскі, але нядоўга: у лютым 1930 года ва універсітэт прыйшло пісьмо з Мінска, якое на некалькі гадоў вызначала лёс маладой сям'і Арлоўскіх.

(Працяг будзе)

## Кланяюцца таполі плёскаўцам

Штогод грамадскім чынам у нашай краіне садзім некалькі мільёнаў дрэўцаў. Хочам, каб нашыя гарады, вёскі і месцы, дзе адпачываем, былі зялёныя.

Не адступілі ад гэтай традыцыі і жыхары Плёсак. Сваю дарогу ад бельскай шашы абсадзілі яны прыгожымі тапалямі. Вядома, не ўсе дрэўцы прыняліся, некаторыя паламаліся ад неасцярожнасці пры працы сельскагаспадарчымі машынамі.

Добра сталася, што жыхары Плёсак ці школьная моладзь засадзілі маладыя таполі. Многія з іх усё ж прыняліся і цудоўна растуць. Высокія тыя тапольчыкі, якія яшчэ не зламаліся. Калі вецер дзьмухне, то нізка кланяюцца яны і просяць плёскаўцаў: калі нас пасадзілі вы, дык не шкадуйце калкоў і прывяжыце нас, не вытрымаем, шалёны вецер нас зломіць.

Аднак да гэтай пары ніхто не знайшоўся ў Плёсках, хто б пашанаваў працу грамадскую і пастараўся забяспечыць — папрывязваць маладыя таполі да калочкаў.

Прыгляньцеся, плёскаўцы, як таполі вашы кланяюцца, просяць вас памагчы.

**Янтар**

## На ўскраі Кнышынскай пушчы

На ўскраі Кнышынскай пушчы ляжыць вёска Вярхлесе. Вялікая, 200 дамоў. Да вайны вярхлескія вазакі ездзілі на вывазку лесу за Гродна і Друскенікі, у Жэдню, Валілы, а нават у Белавежскую пушчу.

Цяпер стала многа працы ў блізкіх лясах і ў Саколцы. Некаторыя ў сезоне едуць на вывазку і вырубку лесу, а многія ў Саколку — на фабрыку будаўнічай сталяркі.

Многія жыхары вёскі заняліся працай, якую завуць папулярна „халупнічай" — плятуць кошыкі і карзінкі для спулдзельні „Вітаміна" ў Кузніцы. Яны цэлымі сем'ямі па начах плятуць гэтыя кошыкі. Зарабляюць на гэтым добра — 3-5 тысяч у месяц. Але і наробяцца людзі. Ідзеш праз вёску апоўначы, дык яшчэ ў хатах гараць агні, і калі ідзеш раніцай а трэцяй, таксама гараць агні. Верхлясяне — народ працавіты, хоць часам і не брыты, і не мыты.

**Віт**

## Без гадоўлі — ні мяса, ні кроўлі

Шудзялаўскі СКР, што сядзібу мае ў Паўночным Востраве, наставіў сваю гаспадарку на жывёлагадоўлю. У хлявах у Піражках і Паўночным Востраве яны гадуюць 765 свіней, а ў Гуранах — 884 авечкі і 56 цялят. Шудзялаўскі СКР гаспадарыць на 921 гектарах зямлі дзяржаўнага фонду.

У 1975 годзе было ў іх засеяна 212 га жыта, 212 га аўса, 25 га бульбы для свіней. Частку бульбы запаравалі ў Востраве, а частку завезлі ў Ліпск і высушылі на бульбяны суш. Рэшта поля была засеяна грэчкай і лубінам. У 1976 годзе шудзялаўскі СКР рыхтуе больш кармоў для свіней, авечак і быдла — пасеялі больш бульбы, вікі і збожжавых мяшанак.

**Віт**

## А хто кветку пасадзіць?

Хто быў калі-небудзь у Гайнаўцы, напэўна прыпамінае, што горад гэты чысты, ладны, многа зелені і кветак. Стараюцца тут не толькі гарадское прадпрыемства камунальнай гаспадаркі, але таксама розныя ўстановы і ўсе жыхары горада.

Але ў самым цэнтры па вуліцы Варынскага ёсць малочная крама, а будуючы яе, архітэктары запланавалі тэрасу, вакол якой падрыхтавалі месца на клумбы для кветак.

І ўяві сабе, дарагі чытач, што персанал малочнай крамы дагэтуль не ведае, навошта будаўнічыя насыпалі тут зямлі, а цяпер толькі зелле расце тут.

Цікава, ці гэтага таксама не ведае Акруговая малачарская спулдзельня, якой падпарадкавана крама?

**Вірскі**

## „Культурнае" бескультур'е ў клубе

У культурным клубе „Рух" у Гаркавічах не можа неяк пасяліцца сапраўдная культура. Увогуле, клубовы не мае ніякага паняцця аб тым, што такое культурная праца. І дзейнасць яго зводзіцца да таго, што прадае ён у кіёску.

Нават з элементарнай культурай, як, напрыклад, зняць шапку ў клубе — не выходзіць. Людзі ўвогуле забылі, што ёсць нормы культуры і добрыя звычаі. Ды як маюць рабіць гэта іншыя, калі сам клубовы сядзіць у шапцы, нацягнутай на вушы, і словам не адазвецца, каб сказаць наведвальнікам клуба зняць шапку.

Пару год таму назад быў у гэтым клубе ідэальны парадак, і здавалася тады, што людзі прывыклі да штодзённай культуры. Прымаўка кажа, што „рыба гніе з галавы". А іменна з той галавой клуба не найлепш. Асабліва ў святочныя дні клубовы вядзе „культурную" працу: разумеючы, што гарэлка і віно заўсёды стаялі на перашкодзе культурнай дзейнасці, стараецца знішчыць гэтыя перашкоды, выпіваючы іх. А потым выганяе з клуба тых, хто бачыць непарадак. Або так: кампанія ідзе ў клуб і прадаўжае сваю „дзейнасць", якую пачала каля крамы з віном. Так было 13, 14, 15 чэрвеня, а і раней не лепш.

У клубе няма халодных напіткаў. Можа гэта і віна ГС у Крынках, але ж клубовы павінен дапільнаваць, каб ГС не забываў пра яго клуб.

Можа аддзел „Рух" у Саколцы зацікавіцца сваім клубам?

**Г.**

## У гасподзе „Над Нарвай" замнога гавораць

Я часта бываю ў Нарве і, як калісьці спявалі ў песнях, „сялом еду, сялом еду, карчмы не мінаю". Дык часта заходжу ў гасподу „Над Нарвай". Вось і ў апошні час зайшоў штосьці перакусіць і выпіць добрае піўцо, што прывозяць у бутэльках з Беластока. Заказаў піва і катлету, а афіцыянтка хутка мне гэта прынесла, хаця меленая катлета не была ўжо першай маладосці — я не даў рады яе відэльцам раздзяліць папалам. Але неяк асіліў яе і спытаў, ці ёсць што цёплае. Афіцыянтка мне сказала, што ёсць бігос, але няма яшчэ варанай бульбы. Было каля 12⁰⁰ і я папрасіў бігос з хлебам; цярпліва чакаў, калі дадуць і бачыў, як з кухні паставілі бігос на акенца, з якога падавалі на стол, я ўжо хацеў сам ісці і ўзяць той свой бігос, але ўбачыў надпіс, што „неўпаўнаважаным" уваход туды забаронены, а афіцыянткі былі дзве і штосьці між сабой гаварылі. Потым кудысь пайшлі, і, калі мне падалі мой бігос, ён быў такі цёплы, як цела памершага, і, што важнейшае, забыліся падаць хлеб. Я падумаў, калі буду яшчэ столькі чакаць хлеба, колькі чакаў бігосу, то ён і скісне, і з'еў бігос без хлеба, падзякаваў і пайшоў. Было ў той час у гасподзе ўсяго каля дзесяці чалавек, а гэта было 18.06.76 года.

**А. В.**

## Ездзіць п'яным не аплочваецца

Многа здараецца выпадкаў на дарогах. Аднак, часта выпадкі здараюцца па прычыне п'янства. Калегія пры начальніку гміны ў Нараўцы мела шмат работы з такімі справамі. Павел Леўша, Рыгор Аніськевіч і Рыгор Скепка вельмі ўважліва разглядаюць усе справы, бо за справамі стаяць людзі, сем'і. Аднак трэба караць і вучыць, каб п'янымі не ездзілі. І вось Эдуард В. ехаў матацыклам „Газэля" без дакументаў і, як сцвярджае, выпіў толькі два піва. Атрымлівае кару 2500 зл. і правы затрымліваюць яму на 6 месяцаў. Вася К. выпіў 150 грам віна і кіраваў „Камаром". Кара 1100 зл. Таксама Валодзя С. атрымлівае кару 700 зл. Яўген З. пасля большай п'янкі вядзе трактар „Урсус" — і кара 3000 зл., а правы затрымоўваюцца на 3 месяцы. Так жа пастурае і Яўген Т., які заплаціць 3100 зл. Былі справы Піліпа Б. і Міхася М., якія ехалі веласіпедамі. Юрка П., кіруючы аўтобусам маркі „Ельч", не стаў на знак „Стоп". Агульна ў адзін дзень калегія пакарала ўсіх на суму 14100 зл. Не аплочваецца такое падарожжа.

**Аляксандр Закройшчык**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЗНАЙШЛІСЯ ВІНАВАТЫЯ

У 23 нумары ад 6 чэрвеня 1976 года мы крытыкавалі „працу" кандуктара і кіраўніка аднаго з паяздоў, які ездзіць на шляху Бельск-Чаромха. У той крытычны дзень іх быццам бы не было. Поезд ехаў, затрымліваўся на прыпынках і адпраўляўся далей. Ні кіраўнік, ні кандуктар не перадавалі машыністу сігналу аб гатоўнасці поезда да ад'езду. Быццам бы зусім не было абслугі. Многія пасажыры, рызыкуючы жыццём, на хаду ўскоквалі на падножкі вагонаў, каб толькі паспець. А поезд адразу набіраў хуткасць. Толькі ў Чаромсе на перон выйшаў кіраўнік, ды падышоў да машыніста. Кандуктар, як пасажыр, сядзеў у купэ першага вагона і прыглядаўся падарожным.

Апісанай справай зацікавілася дырэкцыя ПКП у Седльцах і праверыла скаргу. Крытыка была слушная. Таму мы атрымалі да ведама прозвішчы спамянутага кіраўніка поезда і кандуктара. Яны атрымалі заўвагу. Ім не павінна быць абыякавай справа бяспекі пасажыраў у падарожжы. Гэта ж першапланавая справа.

Раённай дырэкцыі польскай чыгункі сардэчна дзякуем за дзелавіты адказ.

(ця)

W nawiązaniu do artykułu „Dopóki nie późno" zamieszczonego w numerze 23 (1058) Waszej Gazety w dniu 6.06.1976 r. w sprawie niewłaściwej obsługi pasażerów przez drużyny konduktorskie na odcinku Bielsk Podlaski—Czeremcha Dyrekcja Rejonowa Kolei Państwowych w Siedlcach uprzejmie informuje, że w wyniku przeprowadzonego dochodzenia zarzuty podane w w/w artykule znalazły potwierdzenie w rzeczywistości.

Za udowodnione nieprawidłowości w obsłudze podróżnych w pociągu nr 88 412 w dniu 29.041976 r. kierownik pociągu Jan Bober i konduktor rewizyjny Mieczysław Podniesiński z drużyn konduktorskich stacji Siedlce ukarani zostali „upomnieniem". Jednocześnie ostrzeżono ich, że w razie powtórzenia się podobnych niedociągnięć będą odsunięci od obsługi pociągów pasażerskich.

Niezależnie od tego w celu wyeliminowania w przyszłości podobnych nieprawidłowości i doprowadzenia obsługi podróżnych do należytego poziomu z materiałem zawartym w artykule zapoznano wszystkich pracowników obsługujących pociągi pasażerskie, co powinno przyczynić się do lepszego stylu pracy drużyn konduktorskich.

**Dyrektor**
**w/z inż. Erazm Piotrkowski**
**zastępca**

### АБ ДАХУ НА ПРЫПЫНКАХ ПКС

У 24 нумары „Нівы" ад 13 чэрвеня мы апублікавалі матэрыял карэспандэнта, які называў прыпынкі на трасе Нарва-Заблудаў, дзе няма ніякіх будак, а прыпынкі знаходзяцца ў чыстым полі.

Ніжэй прыводзім адказ ПКС на гэтую тэму. І што ж далей?

Odpowiadając na notatkę prasową pt. „Kiedy będą" zamieszczonej na łamach Waszego pisma, Zarząd Przedsiębiorstwa PKS w Białymstoku wyjaśnia, że przystanki typu „Ogonek" w miejscowościach: Narew, Iwanki, Ancuty, Trześcianka, Żywkowo i Gnieciuki nie są przewidziane w planie inwestycyjnym do budowy w roku 1976.

Niezależnie od powyższego Urząd Gminy w Narwi i Zabłudowiu na własny koszt może zlecić tut. Zarządowi PKS do wykonania budowę przedmiotowych przystanków w bieżącym roku.

**Dyrektor**
**mgr inż. Czesław Sawko**

### І ШТО НА ГЭТА КАТЛЫ?

W odpowiedzi na pismo z dnia 15.06.1976 r. w sprawie ulicy we wsi Kotły wyjaśniam jak niżej:
w ubiegłym roku po uzgodnieniu z mieszkańcami wsi Kotły w sprawie pomocy w ramach czynu przy pracach remontowych ulicy, Powiatowy Zarząd Dróg Lokalnych wysłał brukarza do naprawienia bruku. Ulica nie została naprawiona z powodu tego, że mieszkańcy nie pomogli w pracach remontowych, a Urząd Gminy nie posiada funduszy na ten cel.

W tej sprawie radny wsi Obywatel Sergiusz Fiedoruk otrzymał wyjaśnienie przy piśmie Nr 0200a/7/75 z dnia 10.X.1975 roku. Tutejszy Urząd Gminy w dalszym ciągu poczyni starania zorganizowania czynu społecznego do naprawienia ulicy we wsi Kotły.

**Naczelnik Gminy**
**mgr inż. Jerzy Kalina**

**„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

Імпартгумар

## Пагоня за парасём

Жонка зусім даняла Станойча. Зрабі ды зрабі ёй перагародку. Гэта значыць не зусім ёй, а парасяці.

— Зраблю, — гаварыў Станойча.

— Крыўдуй на сабе, калі ўцячэ парася! — крычала Марыя.

— Нікуды яно не ўцячэ, — адказваў Станойча. — А калі і ўцячэ, дык вернецца...

— Не, не вернецца! — пярэчыла Марыя.

Марыю не пераговорыш. Да таго дапякла яна мужа, што ўрэшце ў нядзелю раніцай пайшоў ён за дошкамі. Ісці трэба было міма карчмы. Карчма ў вёсцы Жаляніца была маленькая, ды на ўсіх мужыкоў яе хапала. „Дай зайду на мінуту", — падумаў Станойча.

Зайшоў, узяў сто грамаў ракіі, моўчкі чокнуўся з мужыкамі і выпіў. Навошта лішнія словы?

Потым ён заказаў яшчэ сто грамаў, зноў моўчкі чокнуўся і выпіў. „ Добра ў нас у карчме, — падумаў Станойча. — Што б мы без яе рабілі?.."

Набліжаўся поўдзень, калі ў карчму ўварвалася Марыя.

— Зноў тут тырчыш? — закрычала яна. — П'яніца! Госпадзі, ды ці ёсць адзін непітушчы мужчына ў гэтай вёсцы?

— Не крычы, Марыя, — папрасіў Станойча.

— Каб ты трэснуў! — адказала Марыя. — Хто абяцаў перагародку для парасяці зрабіць?

— Дзень вялікі, зраблю...

— Зробіш! — перадражніла мужа Марыя. — Ды яно ўцякло ўжо, праклятае!

— Куды? — спытаў Станойча. — Скажы напрамак.

— У горы!

— Ідзі дамоў і не хвалюйся, Марыя. Зараз я арганізую за ім пагоню.

Станойча выпіў яшчэ чарку, устаў з-за стала і скамандаваў:

— У пагоню, мужыкі!

Невялікі атрад доўга карабкаўся па трапінцы, падніма́ўся ў горы і лез па скалах, пакуль не пачуў на паляне парасячае павіскванне. Бягляк быў выяўлены.

— Запалкі ёсць? — спытаў Станойча.

— Угу, — адказалі нямнагаслоўныя мужыкі.

— А соль дзе?

— Тут.

— Бутэльку не забылі?

— Як можна...

— Тады акружай яго! — распарадзіўся Станойча.

... — Дзе парася? — закрычала Марыя, калі муж нявердай паходкай зайшоў у хату.

— Яно не вернецца, — адказаў Станойча. апускаючыся на ложак і мармычучы ўжо ўва сне: — Ты мела рацыю, Марыя...

**Славе Македонскі**
(Балгарыя)





**— Пачынаюць заўсёды з малога, — сказаў альпініст, вяртаючыся з першага паходу са зламанаю нагою.**




*— Мой старшанькі вам несамавіта спадабаецца: у яго надзвычайнае пачуццё гумару.*

## Добры ўрок

*Майстэрству сталяра*
*вучыўся наш юнак.*
*Каторы дзень*
*пацеў ён над услонам:*
*Здаецца, ўсё зрабіў,*
*ды — вось бяда! — ніяк*
*Услонік той*
*не мог трымацца роўна.*
*„Каб не хістаўся ён,*
*як п'яны, у бакі —*
*Ёсць выйсце!" —*
*ўслых юнак падумаў.*
*І ножкі ўслоніка*
*узяў ён на цвікі...*
*Прысеў, каб адпачыць,*
*ды з грукам-шумам*
*Упаў, з услонам разам,*
*на паркет...*
*А майстар —*
*ён за ўсім уважліва сачыў —*
*З усмешкай:*
*— Вось цвікоў эфект!*
*Каб слухаў ты,*
*як я цябе вучыў, —*
*Такое не магло б*
*ніколі стацца:*
*Любую справу*
*не рабі трах-бах,*
*Бо на майстэрстве,*
*а не на цвіках,*
*Павінна ўсё,*
*што робіш ты, трымацца.*

**Ян Грак**

### ЯК МІКОЛКА З НЯДЗЕЛЯМІ РАСКВІТАЎСЯ

Вярнуўся дзядуля з горада, а Міколка да яго:

— Дзеду, вы купілі мне тую заваднуюмашыну, што абяцалі?

— Не купіў, Міколка. Сёння ж нядзеля. Магазіны закрыты. Бачыш, вось чырвонае чысло ў календары.

Міколка засмуціўся.

— І навошта тыя нядзелі?! Лепш бы іх не было.

Дзядуля развёў рукамі:

— А дзе ж мы іх падзенем?

Наступнага дня Міколка падыйшоў да дзядулі і радасна сказаў:

— Цяпер, дзядусю, ты ўжо купіш мне тую забаўку, бо нядзель няма.

— Дзе ж яны? — здзівіўся дзядок.

— А я іх усе з календара вырваў.

### У МУЗЕІ

— Колькі можа быць год гэтай мумії, тата?

— Я не ведаю... жанчыне ніколі не бывае столькі год, колькі ёй можна даць.





### КАСТУСЬ

— Глядзі, які букет кветак табе Кастусь нясе. Спяшае, аж спатыкаецца.

— То недзе накраў, дык бяжыць, каб не злавілі.

### НІЧОГА СТРАШНАГА

Уявіце сабе, калі мая Карына ішла з жаніхом да алтара, у царкве пагасла святло.

— Якое няшчасце!

— Ды не, нічога страшнага не здарылася. Яны дайшлі дакладна да алтара — мая дачуся добра ведае гэту дарогу.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пра габраўцаў расказваюць, што...

— яны ноччу спыняюць гадзіннікі, каб не зношваўся механізм;

— адразаюць хвасты ў кошак, каб хутчэй зачыняліся за імі дзверы і не выходзіла цяпло з пакоя;

— калі былі модныя вееры, габраўкі не махалі імі, а для таго, каб яны служылі даўжэй, самі ківалі галовамі перад веерам;

— надзявалі на коней зялёныя акуляры і насыпалі ім пілавіння, каб коням здавалася, што гэта — нарэзанае сена.

✲

— Абвінавачаны, чаму вы забілі сваю жонку, замест таго, каб забіць яе каханка?

— Я вырашыў, што куды разумней забіць адну жанчыну адзін раз, чым кожны тыдзень забіваць па новым мужчыне!

✲

Рэкамендую вам рэцэпт ад маскітаў, Біл: перад сном выпіце шэсць двайных порцый віскі. І вы так набярэцеся, што ў першую палавіну ночы не будзеце адчуваць іх укусаў. А ў другой палавіне ночы яны ўжо так набяруцца, што не будуць вас кусаць.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## BEZ PIENIĘDZY

słowa: Wojciech Młynarski
muzyka: Janusz Kruk
śpiewa Zespół Dwa plus Jeden

Gdzieś daleko w piątej hen świata stronie
gdy w sen się wtulisz jak w koc
widujesz kraj
gdzie biegają świnki już upieczone
a kury znoszą ci moc
na miękko jaj

Bez pieniędzy, bez pieniędzy
w tamtym kraju żyje się
tam najprędzej, jak najprędzej
zabierz mnie, zabierz mnie, zabierz mnie.

Wznosi się tam pasmo gór śmietankowych
różowym kremem po szczyt
przybranych gór
psy złośliwe mają zęby gumowe
wesoło śpiewa po świt
mieszkańców chór

Bez pieniędzy, bez pieniędzy
w tamtym kraju śpiewa się
tam najprędzej, jak najprędzej
zabierz mnie, zabierz mnie, zabierz mnie.

A najbardziej w tamten kraj wierzą dzieci
dorosłym ludziom na złość
wierzą co dnia
czasem porą dzieci chudzi poeci
a czasem też taki ktoś
jak ty i ja

Bez pieniędzy, bez pieniędzy
marzeniami, w to nam graj
wędrujemy jak najprędzej
ujrzeć ten, ujrzeć ten piękny kraj...



*— Паўтараю: шэф на нарадзе!..*

ГУМАР 3

### КАШТОЎНАЯ ЗНАХОДКА

Ішоў дарогай селянін, знайшоў падкову, узрадаваўся і сказаў:

— Вось каб яшчэ тры падковы знайсці ды аднаго каня, гэта было б шчасце!..




### СПРАКТЫКАВАНЫ МЭР

Семдзесят два гады пражыла Саллі Стэнфорд і не ведала, што яе чакае незвычайная прыемнасць: яе выбралі мэрам каліфарнійскага горада Сосаліто. У сваёй першай прамове да жыхароў горада навaспечаны мэр сказала, што будзе дабівацца роўных адносін да ўсіх грамадзян. Па гэтаму поваду газета „Інтэрнэшнл геральд трыбюн" нагадала, што імя пані Стэнфорд ужо раней было папулярным: некаторы час яна была ўладальніцай самага вядомага ў Сан-Францыска публічнага дома і 17 разоў нават была аштрафавана.

### ВОСЬ ГЭТА ФОКУС!

Хто не любіць схадзіць у цырк, каб ад душы пасмяяцца з дзівосных выдумак і фокусаў клоўна! Але ў жыцці бываюць і непажаданыя сустрэчы з людзьмі, якія хаваюцца пад маскай клоуна...

Такое здарылася не так даўно з супрацоўнікамі банкаўскага філіяла ў заходнегерманскім горадзе Хек. Ім было не да смеху, бо сустрэча з „клоўнамі" адбылася не ў памяшканні цырка. Пад „смешнымі" адненнем гэтых людзей, якія няпрошанымі гасцямі ўварваліся ў кватэру кіраўніка філіяла банка, былі схаваны аўтаматы і іншая зброя. Пагражаючы забраць дзяцей у якасці заложнікаў, „клоўны" прымусілі яго ўзяць ключы ад банкаўскага сейфа з грашамі і адчыніць яго.

Усяго гангстэрамі на гэты раз было захоплена 260 тысяч марак — пакража рэкордная нават у ФГР. Вось гэта фокус!



*Памятайце, што, ідучы па сваёй падлозе, вы ходзіце па маёй столі!*